КРЫНІЦА
№5 (15) чэрвень, 2010 www.bchd.info




# БХД пачынае фармаванне Альтэрнатыўнага Ураду для адзінага кандыдата

**На апошняй Нацыянальнай Радзе БХД яшчэ раз было падцверджана вылучэнне партыйнага кандыдата ў прэзыдэнты Беларусі – Віталя Рымашэўскага. Сустаршыня БХД будзе рабіць усё магчымае, каб дэмакратычныя сілы вылучылі адзінага кандыдата ў прэзыдэнты.**

БХД выступіла з ініцыятывай фармавання Альтэрнатыўнага Ураду для адзінага кандыдата ў палітычнай кампаніі 2010-2011 гадоў.

Лідэры Партыі **Віталь Рымашэўскі** і **Павал Севярынец** пачалі кансультацыі з палітычнымі і грамадскімі лідэрамі, а таксама незалежнымі экспертамі адносна фармавання прафесійнай каманды Адзінага Кандыдата ад дэмакратычных сілаў.

На думку БХД, Альтэрнатыўны Урад мусіць прадставіць праграму пераменаў для Беларусі ўжо ў канкрэтных законапраектах, і асобах, гатовых ажыццяўляць неабходныя пераўтварэнні.

Плануецца, што ў склад Альтэрнатыўнага Ураду ўвойдуць не менш за 20 ценевых міністраў – адмыслоўцаў у галінах дзяржаўнага кіравання, эканомікі, сацыяльнай палітыкі, адукацыі і культуры.

“*Мы прапануем зрабіць раскрутку Альтэрнатыўнага Ураду стрыжнем кампаніі адзінага кандыдата*, – кажа Павал Севярынец. – *Калі падчас прэзідэнцкай кампаніі будуць штотыднёва прэзентавацца асобныя накірункі дзейнасці новага ўраду, – дэмакратычная альтэрнатыва зробіцца для беларусаў значна больш зразумелай.*

*Для таго, каб людзі пайшлі за намі, - і ў кампанію, і на Плошчу, яны павінны ясна ўяўляць, за якія перамены мы змагаемся і што мы будзем рабіць пасля перамогі*”, - адзначыў лідэр БХД.

# БХД будзе падаваць на рэгістрацыю Партыі ў трэці раз




**На Нацыянальнай Радзе Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, якая адбылася ў Менску, было прынята рашэнне рыхтаваць трэцюю падачу дакументаў у Мін'юст на рэгістрацыю Партыі.**

Паводле рашэння Рады, да 12 верасня павінен адбыцца чарговы з'езд БХД і падрыхтаваны адпаведныя дакументы.

«*Мы вырашылі ісці ў гэтай справе да перамогі,* – кажа лідэр БХД **Павал Севярынец**. – *Сам працэс падачы дакументаў дазваляе сябрам Партыі мець пэўную юрыдычную абарону, – а нашым міжнародным партнёрам – патрабаваць ад рэжыму рэгістрацыі Партыі. Рана ці позна БХД будзе зарэгістравана*», - адзначыў Севярынец.

Нагадаем, гэта будзе ўжо трэцяя спроба зарэгістраваць БХД. Першы ўстаноўчы з'езд адбыўся 28 лютага 2009 года, аднак Міністэрства юстыцыі незаконна не зарэгістравала Партыю.

Другі устаноўчы з'езд прайшоў у Менску 31 кастрычніка 2009 года. У снежні Міністэрства юстыцыі зноў адмовіла ў дзяржаўнай рэгістрацыі Партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя».

У восеньскіх рэзалюцыях Еўрапейскага парламенту і кангрэсу Еўрапейскай Народнай Партыі адным з пунктаў было патрабаванне да беларускіх уладаў зарэгістраваць БХД.

# БХД патрабуе спыніць пераслед вернікаў царквы «Новае Жыццё». Заява Нацыянальнай рады БХД




**У апошнія тыдні беларуская ўлада ўзяла курс на абвастрэньне канфлікту вакол царквы «Новае Жыццё». Зараз пастару царквы, епіскапу Рэлігійнага аб'яднання абшчын хрысьціян поўнага Евангелля ў Рэспубліцы Беларусь Вячаславу Ганчарэнку можа пагражаць турэмнае зняволенне за «псаванне земляў».**

На фоне словаў уладаў пра «лібералізацыю» працягваецца наступ на свабоду веравызнання ў Беларусі, пра што сведчаць шматлікія факты парушэння рэлігійных правоў у нашай краіне.

Пад найбольшым ціскам аказваюцца тыя хрысціянскія супольнасці, якія актыўна ўдзельнічаюць у грамадскім жыцці краіны.

Апошнія факты – гэта ўціск прыхаджанаў і пастара царквы «Новае Пакаленне» ў Навагрудку, а таксама новыя акалічнасці ў справе менскай царквы «Новае Жыццё», якой быў прад'яўлены іск на суму больш чым 249 млн. рублёў нібыта за забруджванне тэрыторыі царквы нафтапрадуктамі. Больш за тое, 6 траўня да будынка царквы прыбылі каля 10 чыноўнікаў на чале са старшынём Мінскага гарадскога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **Аляксандрам Баравіковым**. Паводле словаў юрыста царквы, **Сяргея Луканіна**, сп. Баравікоў «параіў падумаць, якім пакараннем у адпаведнасці з Крымінальным кодэксам можа пагражаць псаванне зямель, якое пацягнула нанясенне ўрону ў асабліва буйным памеры». Як адзначае юрыст, згодна з артыкулам 249 КК псаванне зямель караецца пазбаўленнем волі на тэрмін да пяці гадоў.

У канцы мінулага года супрацоўнікі камітэта выявілі сляды нафтапрадуктаў у пробах, узятых на праезнай частцы дарогі каля будынка царквы, і інтэрпрэтавалі гэта як забруджванне навакольнага асяроддзя. Аднак пры адборы проб грунту не прысутнічалі панятыя і прадстаўнікі абшчыны. Акрамя таго, добра вядома, што тэрыторыя вакол царквы раней выкарыстоўвалася калгасам імя Калініна для сельгасвытворчасці, а затым на ёй размяшчалася несанкцыянаваная звалка прамысловых адходаў з каркасамі і рухавікамі аўтамабіляў.

БХД патрабуе ад уладаў краіны спыніць пераслед царквы «Новае Жыццё» і забяспечыць правы грамадзянаў на свабоду сумлення. Мы заклікаем беларускую і міжнародную грамадскасць праявіць салідарнасць з беларускімі вернікамі ў іх змаганні за рэлігійныя правы.

# Адбыўся Устаноўчы з’езд Моладзі БХД

**22 траўня ў Менску адбыўся ўстаноўчы з’езд моладзевай арганізацыі БХД «Моладзь БХД – Маладыя Хрысціянскія Дэмакраты». Гэты дзень стаў днём народзінаў першага моладзевага аб’яднання хрысціянскіх дэмакратаў у гісторыі Беларусі.**







З’езд пачаўся малітвай «Ойча наш» і выкананнем гімна «Магутны Божа». Удзел у форуме ўзялі 52 дэлегата з усіх рэгіёнаў краіны, а таксама запрошаныя госці.

З прывітальнымі словамі да ўдзельнікаў з’езду выступілі кіраўнікі Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі **Віталь Рымашэўскі**, **Павал Севярынец** і **Аляксей Шэін**, лідэр «Маладога Фронту» **Зміцер Дашкевіч**, кіраўнік «Маладых дэмакратаў» **Міхась Пашкевіч**, **Франак Вячорка**, а таксама кіраўнікі моладзевай фракцыі Партыі хрысціянскіх дэмакратаў з Нідэрландаў «Перспектыва».

На з’ездзе былі абраныя кіруючыя органы рэспубліканскага грамадскага аб’яднання, прынятыя статут і стратэгія дзеянняў арганізацыі на бліжэйшы час. Старшынём Моладзі БХД – Маладых Хрысціянскіх Дэмакратаў на безальтэрнатыўнай аснове абраная **Любоў Каменева**, ейнымі намеснікамі сталі **Зміцер Трафімчук** (Баранавічы) і **Дзяніс Кобрусеў** (Менск). У склад Нацыянальнай Рады аб’яднання ўвайшлі 13 чалавек, 10 з якіх – прадстаўнікі рэгіёнаў.

Як паведаміла новаабраная старшыня Моладзі БХД Любоў Каменева, першая задача арганізацыі – узмацненне структур у рэгіёнах. Таксама Маладыя Хрысціянскія Дэмакраты будуць удзельнічаць у семінарах, сустрэчах, пілігрымках і іншых рэлігійных мерапрыемствах, «*прыходзіць паўсюль, дзе ёсць моладзь, каб пашыраць хрысціянска-дэмакратычныя каштоўнасці*».

Маладыя Хрысціянскія Дэмакраты выпрацавалі сваю стратэгію дзеянняў падчас будучай прэзідэнцкай кампаніі. Паводле Любові Каменевай, аб’яднанне будзе максімальна працаваць на абранне кандыдата ў прэзідэнты ад БХД Віталя Рымашэўскага Адзіным Кандыдатам ад дэмакратычных сілаў.

«*Мы разумеем, што ўлады бачаць небяспеку ў нашай арганізацыі, бо моладзь – гэта моц, націск і перспектыва. Мы адшліфуем дакументы перад падачай у Мін’юст так, каб улады не знайшлі законную прычыну адмовіць нам у рэгістрацыі*», - сказала прэсавай служба БХД Любоў Каменева.

# Глыбокае: народны дэпутат ад БХД дамогся вырашэння двух праблем

Экс-кандыдат ад БХД з Глыбокага **Яўген Самсонаў** атрымаў станоўчы адказ мясцовых уладаў на свой зварот аб стварэнні ў вёсцы Шуневічы ўмоваў для арганізацыі вольнага часу моладзі.

28 красавіка Яўген Самсонаў перадаў старшыні Глыбоцкага райвыканкама **Алегу Морхату** зварот жыхароў вёсак Шуневічы і Харашкі Глыбоцкага раёна з просьбай аб стварэнні ўмоваў для арганізацыі вольнага часу моладзі (было сабрана 102 подпісы). У Шуневічах адсутнічае клуб і няма ўмоваў для заняткаў спортам, аднак ёсць некалькі пустых будынкаў, якія можна абсталяваць пад гэтыя мэты.

У адказе ўладаў, які атрымаў актывіст, паведамляецца, што прынята станоўчае рашэнне аб будоўлі ў Шуневічах клубу.

Намаганнямі Яўгена Самсонава ўдалося вырашыць і адну з праблемаў жыхароў Глыбокага. Вуліца Машэрава пасля правядзення газаправода доўгі час знаходзілася ў аварыйным стане. Актывіст БХД сабраў каля 50 подпісаў глыбачан і падаў адпаведную заяву ў гарвыканкам. Днямі на вуліцы пачаліся рамонтныя работы.

Нагадаем, сябра Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Яўген Самсонаў балатаваўся па Падсвільскай акрузе ў абласны савет, і ад адной з акругаў у г.п. Падсвілле – у раённы савет.



# Народная дэпутатка ад БХД дамаглася абсталявання дзіцячых пляцовак у Мастах



У рамках кампаніі Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі «Народны дэпутат» экс-кандыдат у дэпутаты ад БХД з Мастоў **Наталля Касцюкова** дамаглася ад камунальшчыкаў абсталявання ў дварах шматпавярховых дамоў дзіцячых пляцовак.

Як паведаміў прэсавай службе БХД актывіст Партыі **Зміцер Кухлей**, падчас сваёй агітацыйнай кампаніі Наталля Касцюкова разам з ініцыятыўнай групай збірала подпісы за абсталяванне на прыдомавай тэрыторыі па вуліцы Леніна спартовых і гульнявых пляцовак для дзяцей. Было сабрана каля 150 подпісаў жыхароў з патрабаваннем прывесці прыдомавыя тэрыторыі па вуліцы Леніна ў адпаведнасць з нарматывамі і пабудаваць добраўпарадкаваныя пляцоўкі для дзяцей.

Цяпер актывістка БХД атрымала адказ з Мастоўскага РУП ЖКГ, дзе паведамляецца, што ў траўні месяцы запланаваны работы па абсталяванню дзіцячай гульнявой пляцоўкі на прыдомавых тэрыторыях мікрараёна.

# Народная дэпутатка ад БХД дамаглася новага аўтобуснага маршруту ў Віцебску



Намаганнямі экс-кандыдаткі ў дэпутаты ад БХД з Віцебску **Алены Шабуні** ў адным з аддаленых мікрараёнаў гораду, дзе цяпер курсуюць толькі трамваі, з чэрвеня ўводзіцца аўтобусны маршрут.

«*Я сама пражыла сем гадоў у Пятым камунальным, як мы называем гэты раён, і цудоўна ведаю, што значыць раніцай і увечары залежаць ад трамваяў. Асабліва калі яны ламаюцца*, - распавядае прэсавай службе БХД Алена Шабуня.

Падчас сваёй агітацыйнай кампаніі былая кандыдатка ў дэпутаты вырашыла сабраць подпісы жыхароў мікрараёну, каб паспрабаваць палепшыць сітуацыю з грамадскім транспартам.

«*Людзі былі такія ўдзячныя, усе, да каго я звярталася, ставілі подпісы. Апроч аднаго чалавека, які сказаў, што з’язджае і яму ўсё роўна. Я таксама даўно не жыву тут, але мне не ўсё роўна*».

Пад заявай ў адпаведную гарадскую службу было сабрана 120 подпісаў. У адказе, які атрымала Алена Шабуня, паведамляецца, што новы аўтобусны маршрут № 16 пачне курсаваць па маршруце Поўдзень-7 – Чкалава – Маскоўскі праспект – плошча Перамогі – Герцэна – Ляўкова з чэрвеня. Ужо будуюцца прыпыначныя пункты.

У асабістай размове наконт гэтай праблемы ў гарвыканкаме Алене Шабуне паабяцалі, што пры магчымасці будзе пушчаны яшчэ адзін аўтобусны маршрут, каб цалкам вырашыць транспартныя праблемы жыхароў азначанага мікрараёну.

# Народная дэпутатка ад БХД «запаліла» святло ў Віцебску

У рамках кампаніі Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі «Народны дэпутат» экс-кандыдат у дэпутаты ад БХД з Віцебску **Настасся Сотнікава** дамаглася ад уладаў асвятлення двароў у адным з раёнаў гораду.

Падчас сваёй агітацыйнай кампаніі Настасся Сотнікава разам з ініцыятыўнай групай збірала подпісы за асвятленне двароў па праспекце Чарняхоўскага ў Віцебску. Было сабрана 100 подпісаў жыхароў, якія скардзіліся на тое, што ў дварах не хапае ліхтароў, а тыя, што ёсць, не заўсёды працуюць.

Цяпер актывістка БХД атрымала адказ з прадпрыемтва «Гарсвятло», дзе паведамляецца, што асвятленне ў пазначаных дварах цалкам адноўлена.

Раду народных дэпутатаў БХД стварыла пасля правядзення «выбараў» у мясцовыя саветы дэпутатаў. У яе ўвайшлі тыя кандыдаты ў дэпутаты мясцовых саветаў, якія перамаглі дэ-факта, але не прайшлі сіта афіцыйнага падліку. Рада народных дэпутатаў – гэта альтэрнатыўная структура, якая працуе сапраўды ў інтарэсах насельніцтва, а не ўлады.



# Д В У

*Дарагія чытачы!*

*У Беларусі не сціхаюць спрэчкі адносна прымянення смяротнага пакарання. Беларусь засталася апошняй краінай у Еўропе, дзе караюць смерцю. Хрысціяне розных канфесій па-рознаму ставяцца да гэтай праблемы. Сённяшні «Двубой» прысвечаны тэме смяротнага пакарання: «за» ці «супраць»?*



**Пастар царквы «Новае пакаленне» (Наваградак)**

## Уладзімір Качагур:

**«Я за смяротнае пакаранне, таму што Бог за смяротнае пакаранне»**

Чаму я за смяротнае пакаранне? Таму што Бог – за смяротнае пакаранне. І адпаведна калі Бог – за, чалавек не мае права быць супраць.

У Ветхім Запавеце Бог даў запаведзь «Не забі» ізраільскаму народу, і тут жа Бог кажа Маісею, што калі народ Ізраіля будзе браць зямлю абяцаную, то павінен знішчаць усе іншыя народы. Такім чынам, запаведзь «Не забі» была дадзеная ізраільскаму народу, яна не распаўсюджвалася на іншыя.

Бог сказаў: адзін аднаго не забівайце, а іншыя народы забівайце, бо яны грашаць супраць мяне. І гэта было рашэнне Божае.

І вось у сучасным свеце ад элементарнага неразумення Божага Слова ў людзей узнікаюць пытанні, а ці патрэбна памілаваць маньяка, які згвалтаваў і забіў дзесяць дзяцей?! Дараваць яму жыццё? Я лічу: НЕ. Я лічу, у Бога сэрца будзе балець болей за гэтых забітых дзяцей, чым за аднаго забойцу.

Па-другое, Бог аддаў на смяротнае пакаранне свайго сына, Ісуса Хрыста. І калі чалавек кажа: я супраць смяротнага пакарання, у мяне заўсёды ўзнікае пытанне: ты што, вышэйшы за Бога?

Сваім пратэстам супраць Божага рашэння караць смерцю грэшнікаў людзі выказваюць Яму недавер, сваю незадаволенасць ім, імкнуцца стаць вышэйшымі, больш гуманнымі за Яго. Такія людзі ідуць супраць Бога.

Я цвёрда перакананы ў тым, што смяротнае пакаранне павінна быць, але яно павінна быць строга абмежавана чалавечымі законамі і выкарыстоўвацца толькі для забойцаў.

Калі чалавек свядома забівае чалавека, то гэта не Бог адабраў жыццё ў забітага, а чалавек. Таму і ў гэтага чалавека, іншы чалавек, надзелены законам, павінен таксама адабраць жыццё.

У Бібліі сказана: «Кара за грэх – смерць, а дар Божы – жыццё вечнае».

Здараюцца выпадкі, калі людзей пакаралі смерцю, а праз пэўны час высвятляецца, што гэта было памылкова. Але гэта не падстава скасоўваць смяротнае пакаранне і тым самым Божыя законы. Гэта – праблема людзей ад закона, якія не разабраліся ў канкрэтнай сітуацыі, зрабілі памылку і павінны за яе адказаць перад тым жа законам.

Я не лічу, што грамадства стане больш агрэсіўным з-за смяротнага пакарання. Я не думаю, што ў сэрцы жанчыны, у якой нейкая пачвара згвалтавала і забіла дзіця, будзе нейкая крыўда за тое, што гэтага чалавека пакараюць смерцю.

# Б О Й



У мінулым «Двубоі»
з вынікам 77:64 перамог
народны дэпутат-аптыміст
**Зміцер Кухлей**

*Пераможцу вызначыце Вы!*

*Вы можаце прагаласаваць за ўдзельніка, якога падтрымліваеце, праз тэлефон 8-029-5729484, sms, e-mail dvuboj@gmail.com ці пошту 220123, г. Мінск, а/с 324 (Проста пазначце прозвішча – за каго аддаеце Ваш голас)*

**Філосаф, каталік (Смаргонь)**

## Аляксандр Ількевіч:

**«Смяротнае пакаранне – гэта ўзаконенае забойства»**



«Калі мы адмаўляемся прыняць той факт, што прырода чалавека пашкоджаная і схільная да злога, мы ствараем прастору для сур'ёзных памылак у галіне адукацыі, палітыкі, правасуддзя, грамадскай дзейнасці (і нораваў)»

*Ян Павел ІІ энцыкліка «Centesimus annus» («соты год») аб стагоддзі сацыяльнага вучэння Касцёла.*

Калі мы прамаўляем фразу «смяротнае пакаранне», якое пачуццё яна ў нас выклікае? У  пераважнай большасці людзей думка аб смяротным пакаранні выклікае страх і турботу. Пачуццё трагічнага, чагосці непапраўнага і бязвыхаднага ахоплівае душу.

Тыя, хто падтрымліваюць ўжыванне смяротнага пакарання, ведаюць, што робяць, калі прапаноўваюць людзям захоўваць галаву халоднай. Менавіта дзякуючы абыякаваму стаўленню да гэтай праблемы з боку чалавечай супольнасці захоўваецца жывучасць гэтага жудаснага першабытнага рытуалу. Калі спіць сумленне, словы пазбаўляюцца сэнсу. Тады пад завесай фармальнай фразеалогіі можна схаваць сапраўдную сутнасць любога гвалту. Чаго толькі вартыя адны выразы: «акупіў сваю віну», «правасуддзе адбылося» і г. д. Смяротнае пакаранне ёсць ні што іншае, як узаконенае забойства, і ў гэтым заўсёды трэба аддаваць сабе справаздачу.

У чалавеку пачуццё справядлівасці можа жывіцца з двух крыніц. Для адных справядлівасць – сінанімічнасць помсты, для іншых – міласэрнасці. Той жа дуалізм уласцівы і ўсякаму грамадскаму заканадаўству. Грамадства больш гуманна там, дзе міласэрнасць мае прыярытэт над інстынктам помсты. Міласэрнасць па сваёй прыродзе духоўная, помста ж з'яўляецца рэфлекторным, прыродным інстынктам.

Гісторыя паказвае, што смяротнае пакаранне ўжывалася за розныя злачынствы, і гэтая вышэйшая мера пакарання, якая існавала на працягу доўгага часу, не прывяла да знікненьня ні аднаго з гэтых злачынстваў.

Вядома, што акадэмік Андрэй Сахараў рэзка выступаў за адмену смяротнага пакарання. Вось што ён казаў з гэтай нагоды: «Наяўнасць інстытута смяротнага пакарання дэгуманізуе грамадства. Я выступаў і выступаю супраць смяротнага пакарання яшчэ і таму, што гэтая мера пакарання прадугледжвае наяўнасць пастаяннага, страшнага апарата выканаўцаў, цэлага інстытута смяротнага пакарання».

Мы вельмі доўгі час мелі магчымасць назіраць, што адбывалася (адбываецца) з грамадствам, калі смяротнае пакаранне ўжывалася. Чаму б сёння не ўстрымацца ад яе прымянення і не паглядзець на тое, што будзе з ім адбывацца пасля забароны смяротнага пакарання. Ці стане грамадства ад гэтага горш?

***Дарагія чытачы «Крыніцы»!***

***Сёння ў нашай традыцыйнай рубрыцы «ТВАЁ ІМЯ, БЕЛАРУСЬ» мы прадстаўляем знакамітага беларускага палітыка, аднаго з заснавальнікаў сучаснай беларускай дзяржавы, выбітнага адраджэнца і верніка Зянона Пазьняка***



# Зянон Пазьняк



Зянон Пазьняк – палітычны абсалют нацыянальнай ідэі. Хрысьціянін. Паэт. Эмігрант. Самотны лідэр апошняга беларускага Адраджэньня.

Пазьняк адкрыў усяму сьвету Курапаты. Заснаваў Беларускі Народны Фронт. Узначаліў апазыцыю ў Вярхоўным Савеце на хвалі развалу СССР. Дамогся незалежнасьці.

У Беларусі імя Пазьняка стала сынонімам палітыкі нацыянальных інтарэсаў.

Пазьняк – вылітая воля й вера Беларусі. Пазьняк, які адкопвае чарапы ў курапацкіх ямах, ідзе ў першых шэрагах на Чарнобыльскім шляху, прамаўляе з трыбуны – найярчэйшыя кадры кронікі беларускага руху. У Пазьняку пэрсаніфікаваная ўся ўнутраная сіла, адпорнасьць і ідэалістычная прынцыповасьць, глыбока схаваныя ў кожным беларусе. Уся ахвярнасьць і пакута, узьнёсласьць і боль беларускай гісторыі выявіліся ў гэтай высокай, хударлявай і годнай постаці, у аграмадным бліскучым лобе, моцным падцятым падбародзьдзі, у глыбокіх чорных вачох.

Вось чаму так панічна баяліся Пазьняка камуністы, кадэбэшнікі й Крэмль.

Пазьняк стоік, як і заснавальнік стаіцызму – Зянон. Аскет. Па-манаску стрыманы й па-пурытанску строгі. Арыстакрат духу, як і ўсякі нацыянальны герой, Пазьняк – вяршыня цэлае дынастыі. Дзед, Ян Пазьняк, дзеяч БНР, засноўваў Беларускую Хрысьціянскую Дэмакратыю і быў расстраляны бальшавікамі. Бацька, Станіслаў, ваяваў з фашыстамі й загінуў на фроньце ў 1944-м.

Кажуць, што Зянон спазьніўся на пару стагодзьдзяў. Нам бы, маўляў, такога правадыра ня ў 1994-м, а ў 1794-м! Насамрэч ён зьявіўся вельмі своечасова. Тады, калі атупелыя, абалваненыя, зьняверыныя беларусы забыліся, кім яны ёсьць увогуле. Нацыя была фактычна ў стане клінічнае сьмерці. Пазьняк яе рэанімаваў.

Археоляг і фатограф Зянон Пазьняк у 1987 г., з пачаткам Перабудовы, апублікаваў жахлівыя матар'ялы раскопак у Курапатах, якія сам таемна вёў доўгія гады – і ўмомант стаў жывым сьцягам антыкамуністычнага руху. Ужо 19 кастрычніка 1988 г. ён стварае Аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту, а праз два тыдні ачольвае першае масавае шэсьце «Дзяды», жорстка разагнанае міліцыяй.

Пазьняк на чале парлямэнцкай апазыцыі – усяго 30 дэпутатаў! – здолеў пераламіць сытуацыю ў пракамуністычным Вярхоўным Савеце пачатку 90-х гг. Трыста саўковых нардэпаў пад няўмольным позіркам Пазьняка прымалі «Дэклярацыю незалежнасьці», бел-чырвона-белы сьцяг і «Пагоню», стваралі ўласнае войска, мытню, бюджэт... Стваралі дзяржаву.

«Не кілбасы мусім шукаць, а Бога!» – казаў тады Пазьняк.

І гэта быў сапраўды цуд Божы: перамога над Імпэрыяй зла.

Геній нацыяналізму, полюс непадкупнасьці, чалавек сталёвых нэрваў, Пазьняк адначасова заставаўся мастацтвазнаўцам, лірычным паэтам, поўным пяшчоты да свайго краю й любові да Бога. «Ave Maria» на ягоныя словы стала «Песьняй года -1994». Пасьля ягоных белых вершаў хочацца плакаць і цалаваць беларускую зямлю.

Але няма прарока ў сваёй айчыне. Пасьля шматтысячных маніфэстацыяў Вясны-96 пад пагрозай расправы Пазьняк мусіў зьехаць за мяжу й папрасіць палітычнага прытулку ў Амэрыцы.

Пазьняк – харызматычны лідэр і палітык крышталёвае чысьціні, а гэта тая яшчэ рэдкасьць. Яго аблівалі брудам, яму здраджвалі паплечнікі, яго замоўчвалі – але ён ані на цалю не зьмяніў сваіх прынцыпаў. Яго папракалі ў бескампраміснасьці й катэгарычнасьці – але ці можа крышталь ня быць цьвёрдым!

Так, цяпер Пазьняку прынята прыгадваць палітычныя памылкі. Але ж сярод сучасьнікаў, менавіта Пазьняк, найбольш ясна сфармуляваў беларускую нацыянальную ідэю ў сваіх кнігах «Сапраўднае аблічча», «Gloria Patria» і «Новае стагодзьдзе».

Пазьняк, як моцны магніт, прыцягвае й адштурхоўвае, абуджае веру сябраў і выклікае шал ненавісьнікаў. Але нават ворагі трапечуць у ягонае прысутнасьці. Калі Пазьняк глядзіць табе ў вочы – мурашкі ідуць па скуры, а жар зьмяняецца холадам.

Бо Пазьняк ня проста кажа. Ён прарочыць. Ягоныя выразы кшталтаваныя й адточаныя, ягоны голас гучыць уладна й велічна – і ягоныя словы збываюцца. «Усё так, як казаў Пазьняк!» – у Беларусі ўжо даўно расхожая фраза.

Фэномэн Пазьняка тлумачыцца проста. Зянон Пазьняк – беларускі хрысьціянін на ўсе 100%. У ім гэта ад Ісуса Хрыста – выкрываць і заклікаць. Пазьняк робіць гэта па-каталіцку гранёна й бліскуча – так, што працінае да самага сэрца.

Постаці такога маштабу можна разгледзець толькі здалёк. Іх ацэньвае гісторыя. І Беларусь урэшце рэшт ацэніць.

Таму што рана ці позна будзе так, як казаў Пазьняк.

*З кнігі Паўла Севярынца «Люблю Беларусь»*

# Царква і партыя



1. Пазыцыя Царквы ў адносінах да палітычных партый, якія ёсьць неад’емнымі ў прадстаўніцкай дэмакратыі, вызначаецца прынцыпамі, якія наогул рэгулююць стаўленьне Царквы да дзяржавы і палітыкі. Самі па сабе палітычныя партыі - «сьвецкія ўстановы», якія не падлягаюць кіраўніцтву Царквы. Шматлікія пункты праграмы і рашэньні палітычнай партыі «індыфэрэнтныя» ў сьвятле каталіцкага веравучэньня і маральнага вучэньня. Тут мае сілу меркаваньне Другога Ватыканскага Сабору, пра тое, што «ў пытаньнях арганізацыі зямных справаў» і сярод хрысьціян могуць быць «апраўданыя адрозненьні ў меркаваньнях». У такіх выпадках ніхто не мае права «выкарыстоўваць аўтарытэт Царквы выключна для сябе і дзеля сьцьвярджэньня свайго ўласнага меркаваньня». У сучасным грамадзтве, дзе пануе плюралізм сьветапоглядаў, Царква, вядома, часам сутыкаецца з праграмамі палітычных партый, супраць якіх яна павінна пратэставаць як захавальніца веравучэньня і маральнага вучэньня.

2. З выкладзеных разважаньняў можна зрабіць чатыры высновы:

а) Калі ўявіць выпадак, што ў дзяржаве ніводная партыя не парушае - ні ў праграме, ні ў палітыцы - каталіцкае веравучэньне і маральнае вучэньне, тая гэта справа каталікоў, да якой партыі яны жадаюць далучыцца.

б) Каб пазьбегнуць хібнага меркаваньня пра тое, што партыя і царква - гэта адно і тое ж, можна было б вітаць, з гледзішча Царквы, калі б пазыцыі альбо хаця б шматлікіх партый дазвалялі б, каб каталікі ўступалі ў іх без згрызот сумленьня. Але, як вучыць досьвед, адзіная палітычная партыя каталікоў - нягледзячы на ўсе запэўненьні пра яе нецаркоўны характар - лёгка ідэнтыфікуецца з Царквой і хрысьціянствам.

в) Калі палітычная партыя перасьледуе мэты, якія супярэчаць хрысьціянскаму веравучэньню і маральнаму вучэньню, каталікам нельга ні ўдзельнічаць у ёй, ні галасаваць за яе. **Павярхоўны лёзунг «рэлігія не зьвязаная з палітыкай» - ілжывы**. Як трапна запярэчыў Пій XI, ёсьць палітыка, якая ўрываецца ў цэрквы і зрынае алтары. Палітычныя партыі, такім чынам, самі вызначаюць праз сваю праграму і палітыку сваю блізкасьць ці аддаленасьць ад Царквы.

БХД

г) Паколькі ў грамадзтве, дзе пануе сьветапоглядны плюралізм, можа быць, што праграмы існых палітычных партый супярэчаць у істотных пунктах каталіцкаму веравучэньню і маральнаму вучэньню, можа атрымацца, што грамадзяне-каталікі аб’яднаюцца ва ўласную палітычную партыю ці ўтвораць партыю разам з хрысьціянамі-некаталікамі. Гэта партыя - не «царкоўнае ўтварэньне», не канфэсійная і клерыкальная, а палітычная партыя, якая адказвае за дабро ўсяго народа. Калі яна заве сябе «хрысьціянскай», гэта азначае не апеку з боку Царквы, а прыхільнасьць прынцыпам Хрысьціянскага сацыяльнага вучэньня. Сёньня нямала людзей падзяляюць - сьвядома ці не - палажэньне пра тое, што толькі прыхільнікі лібэралізму, сацыялізму, гуманізму ці яшчэ якога-небудзь сэкулярызаванага кірунку маюць права быць палітычна актыўнымі, але не прыхільнікі хрысьціянскай веры, ва ўсякім разе не паводле прынцыпаў іх веры; калі грамадзяне-каталікі хочуць выразіць сябе ў сфэры палітыкі, яны павінны як бы адмовіцца ад сваёй веры - у сфэры палітыкі - і дзейнічаць па лібэральных ці сацыялістычных узорах. Палітычная дзейнасьць грамадзян-каталікоў, якая нясе на сабе адбітак веры, - гэта нібы «палітычны клерыкалізм». На гэты абразлівы папрок варта запярэчыць, што **ў сучасным грамадзтве са сьветапоглядным плюралізмам хрысьціянін таксама мае права і абавязаны ўдзельнічаць у палітычнай арганізацыі дзяржавы, грамадзтва і эканомікі, зыходзячы са сваёй веры.** Хрысьціяне павінны, як вучыць Другі Ватыканскі Сабор, быць прыкладам таго, як дзейнічаць з усьведамленьнем свайго абавязку і ўдзельнічаць у ажыцьцяўленьні агульнага дабра. Яны павінны на справе паказаць, «як могуць спалучацца ўлада са свабодай, асабістая ініцыятыва з аб’яднаньнем у агульнае цэлае на прынцыпах салідарызму, запаведанае адзінства з плённай шматстатнасцю». Але пры гэтым варта выразна адрозьніваць «тое, што хрысьціяне робяць як індывіды ці ў аб’яднаньні, але пад уласным імем як грамадзяне, якія кіруюцца сваім хрысьціянскім сумленьнем, і тое, што яны робяць ад імя Царквы разам са сваім пастырам».

У сучасным грамадзтве Царква настолькі сучасная і дзейсная, наколькі дастаткова «сьведчаньня хрысьціян», якое павінна дзейнічаць «у сфэры працы, прафэсіі, вучобы, жыльля, вольнага часу, сяброўскага баўленьня часу». Калі ня будзе гэтага сьведчаньня, то Царква ня будзе больш запаўняць духоўную сфэру грамадзтва, і іншыя сілы будуць пранікаць і сьцьвярджацца і скалынаць гарантаванае правам становішча Цэрквы ў дзяржаве. Адсутнасьць сутнасьці веры ня можа быць заменена дзяржаўнымі прывілеямі на прынцыпах субсыдыярнасьці.

*Кардынал Ёзэф Хёфнэр* (1906-1989) – адзін з найбольш вядомых прадстаўнікоў кталіцкага сацыяльнага вучэньня. Біскуп Мюнстэра, а затым Кёльна. З 1976 да 1987 гг. быў старшынём Нямецкай біскупскай канфэрэнцыі. Кніга «Хрысьціянскае сацыяльнае вучэньне» лічыцца адным з найлепшых падручнікаў пра сацыяльнае вучэньне Каталіцакай Царквы.

***Крыніца:*** *Кардынал Ёзэф Хёфнэр.*

# Карупцыя і страх Божы

*Юрый Клімовіч, Гомель*

**Карупцыя зьяўляецца сыстэмнай складовай часткай аўтарытарнай палітычнай і эканамічнай сыстэмы. Больш за тое, аўтарытарызм патрабуе карупцыі. Магчымасьць пакараньня любога чыноўніка ці бізнэсоўца – ёсьць гарантыя падпарадкаванасьці і трываласьці гэтай сыстэмы ўлады. Чыстыя, сумленныя чыноўнікі і бізнэсоўцы – пагроза для рэжыму.**




Уся ўладная вертыкаль карумпавана зьнізу да верху. А паколькі ўсіх пасадзіць немагчыма, то ўлада прызначае асобных сваіх прадстаўнікоў злодзеямі, як раней прызначала кіраўнікамі. Пад выглядам барацьбы з карупцыяй нагнятаецца атмасфэра тэрору і застрашэньня сярод чыноўнікаў і бізнэсоўцаў.

Таму ня можа быць даверу ніводнаму чалавеку, які хоць некалькі месяцаў правёў на кіруючых пасадах. Хай яны нават кіраўнікі апазыцыі. Немагчыма зрабіць кар'еру ва ўладнай вертыкалі і не ілжэсьведчыць. Больш за тое, уся гэтая кар'ера пабудаваная на ілжэсьведчаньні. І каб сказаць яшчэ разчэй, права на карупцыйныя звышдаходы купляюцца штодзённым ілжэсьведчаньнямі. Халуйства – умова атрыманьня улады. Улада – ўмова атрыманьня хабараў і адкатаў. Гэта ісьціна, ад якой у начальнікаў цямнелі твары і пачыналі трэсьціся рукі падчас апошняй выбарчай кампаніі.

Самы маленькі начальнік – гэта ўладар, які распараджаецца не належнымі яму матэрыяльнымі сродкамі, чалавечымі лёсамі і нават жыццямі. Шматлікія спакусы і сьмяротны грэх – гэта штодзённая рэальнасьць і небясьпека для кожнага начальніка ва усе часы. Каму ён служыць – Богу ці сатане – пытаньне рытарычнае, ад якога залежыць яго лёс у вечнасьці. Таму спаконвеку ўсе начальнікі прымалі прысягу, сэнс якой у вырачэньні уласнай волі і адказнасьці ці тое на карысьць вышэйшых сьвецкіх уладаў, ці тое на вернасьць Закону. А з боку духоўных уладаў начальнікі заўсёды прасілі дабраславеньня. (Магчымай, менавіта таму ваенныя людзі ва усе часы карысталіся асаблівым даверам насельніцтва).

Ад кожнага, хто займае адказныя пасады, ці прэтэндуе на гэта, мы павінны патрабаваць урачыстага публічнага засьведчаньня на Бібліі, што ён у сваім жыцьці ня браў хабару, не карыстаўся казёнымі грашыма ці казённай маёмасьцю на ўласную карысьць, не ілжэсьведчыў, не падпісваў ілжывых выбарчых бюлетэняў. Мы не патрабуем зараз, каб ён кляўся, што не будзе гэта рабіць у будучыні. Мы людзі грэшныя і ня можам браць на сябе адказнасьць за тое, што ведае адзін Гасподзь. Заклікаць жа у сьведкі Госпада дзеля пацьверджаньня фактаў адбыўшыхся ў мінулым і прадухіленьня.

І гэта павінна быць абавязковай умовай супрацоўніцтва як з нашымі апанэнтамі ва ўладзе, так і з нашымі хаўрусьнікамі па апазыцыі. Адмова ад публічнага сьведчаньня на Бібліі раўназначна прызнаньню у злачынстве , а адмова ад прысягі на вернасьць Закону па сутнасьці зьяўляецца для палітыка маральным самазабойствам.

*Працяг будзе*

# Біблія і філатэлія: стварэньне сьвету

*Лявон Карповіч, Масты*

працяг




З хваляваньнем возьмем у рукі Кнігу кнігаў – Біблію і адкрыем першую старонку. СТАРЫ ЗАПАВЕТ – дамова паміж Богам і Яго народам. Бог стварыў увесь сусьвет, але запавет заключыў толькі з Ізраілем. Таму Стары Запавет – гэта гісторыя народа Ізраіля і яго адносін з Богам. Таму большая частка кніг Старога Запавету напісаныя на старажытнай яўрэйскай мове. Чытаем першую кнігу Старога Зпапавету «Быцьцё»:

«На пачатку стварыў Бог неба і зямлю. А зямля была нябачная і пустая і цемра над безданьню, і Дух Божы лунаў над вадою. І сказаў Бог: хай будзе сьвятло. І сталася сьвятло. І ўбачыў Бог сьвятло, што яно добра, і аддзяліў Бог сьвятло ад цемры. І назваў Бог сьвятло днём, а цемру ноччу. І быў вечар, і была раніца: дзень адзін.» (Быцьцё 1:3-5).

Гэтаму першаму дню, ад якога ўсё пачалося, прысьвечана марка пошты Ватыкана, выдадзеная ў 1974 годзе. Малюнак на марцы нагадвае казачны дом, унутры якога пануе сьвятло. Уверсе маркі надрукаваны на італьянскай мове словы: «Хай будзе сьвятло».

Шэсьць дзён Бог ствараў сьвет, а на сёмы дзень «спачыў ад усіх дзеяў Сваіх». (Быцьцё 2:3). Кожны дзень стварэньня сьвету адлюстраваны на шасьці марках Ізраіля, выданых у 1965 годзе. Мастак А. Гальдэрон у стылізаваным выглядзе адлюстроўвае падзеі кожнага дня:

Пад кожнай маркай знаходзіцца так званы прывесак. На прывесках на яўрэйскай і французскай мовах зроблены надпісы:

- Дзень першы – стварэньне сьвятла і цемры;
- Дзень другі – стварэньне цьвердзі, якая разьдзяляе неба і зямлю;



- Дзень трэці – стварэньне сушы, мора і расьлінаў;
- Дзень чацьвёрты – стварэньне сонца, месяца і зорак;
- Дзень пяты – стварэньне істотаў водных і птушак;
- Дзень шосты – стварэньне жывёлаў дзікіх і дамашніх і чалавека.

Зусім іначай адлюстроўвае чацьвёрты дзень стварэньня сьвету геніяльны італьянскі




скульптар, мастак, архітэктар, паэт, адзін з найбуйнейшых прадстаўнікоў Адраджэньня Мікеланджэла (Міхал Анёл) (1475-1564) на фрэсцы Сікська цінскай капэлы ў Ватыкане.

Марка, надрукаваная поштай Індыі ў 1975 годзе, як і марка пошты Ватыкана з 1994 года, не можа перадаць усяго духоўнага зьместу і прыгажосьці фрэскі, але заахвочвае ўбачыць яе, каб уразіцца яе прыгажосьцю і зразумець задумку аўтара перадаць зьмест выразу з Біблії: « І ўбачыў Бог, што гэта добра.» (Быцьцё 1:18).



***Выкарыстаныя крыніцы:***

1. БІБЛІЯ. Кнігі Сьвятога пісаньня Старога і Новага Запавету. Кананічныя. У беларускім перакладзе. «ПРЫНТКАРП». Мінск 2002.
2. Ks. Waldemar Chrostowski. Biblia znaczkami ilustrowana. Promyk jutrzenki. Katolickie pismo dla dzieci.
3. Иллюстрированная Библейская энциклопедия Архимандрита Никифора. ООО «Издательство «Эксмо». Москва. 2008.
4. MICHEL. http://www.briefmarken.de

# «Беларускі Хрысьціянскі Хіт – 5»




Да Вялікадня выйшаў чарговы дыск з серыі«Беларускі Хрысьціянскі Хіт» пад назвай- «Хрыстос уваскрос!» – чацьвертая зборка найлепшых беларускамоўных хрысьціянскіх сьпеваў, гэтым разам прысьвечаных сьвяту Уваскрасеньня Хрыстовага. Адабраныя паводле строгіх крытэраў песьні прайшлі ратацыю ў хрысьціянскіх фокус-групах (адпаведна, праваслаўнай, каталіцкай, грэка-каталіцкай, баптысцкай, пяцідзесятніцкай, поўнаэвангельскай і г.д.) – і вернікі самі вызначылі найлепшыя сьпевы. Найбольш хітовымі выканаўцамі слухачы прызналі гурты «Тэзаўрус», «Псальмяры», «DVA», «Небасхіл», «Кадаш». Сярод выканаўцаў – таксама Алеся Унукоўская, барды Андрэй Мельнікаў, Вальжына Цярэшчанка й Інэса Леаданская. Пачынаюцца ўсе дыскі «Беларускага Хрысьціянскага Хіта» гімнам «Магутны Божа»; завяршаюцца – сьпеўнай малітвай «Ойча наш». Рыхтуюцца да выданьня таксама іншыя дыскі гэтай сэрыі:»Беларускі Хрысьціянскі Рок», «Бардаўскі Хрысьціянскі Хіт» і «Беларускі Літургічны Сьпеў», «Люблю Беларусь». Зараз рыхтуецца пяты альбом сэрыі «Бардаўскі Хрысьціянскі Хіт». Наконт усіх прапановаў на гэтыя складанкі, а таксама па замовы першых 4-х дыскаў можна зьвяртацца па тэлефонах: 8-029-861-62-28, 8-029-656-00-64 (Валянціна).

## «Крыніца» 82 гады таму

### Праваслаўныя дэлегаты БХД ў віленскага Уладыкі

Дня 28 гэтага месяца рэдактар нашай газэты грам. Я. Пазьняк адведаў віцэ-старшыню Цэнтральнага Камітэта БХД грам. J. Красоўскага і заступніка сакратара грам. М. Дварэцкага, з каторымі вёў гутарку ў справе беларусізацыі праваслаўнай царквы ў Зах. Беларусі.

Грам. Красоўскі і грам. Дварэцкі заявілі, што 27.XI яны – праваслаўныя прадстаўнікі БХД – гэты мемарыял падалі на рукі Яго Прэаасвяшчэнства Віленскага і Лідзкага праваслаўнага Архіепіскапа.

На запытанне рэдактара, як аднёсся да гэтай справы Уладыка – грам. Красоўскі і грам. Дварэцкі заявілі, што Уладыка дамаганьні БХД прымае пад увагу.

*Biełaruskaja Krynica, nr. 54, 30 лістапада 1928 года*




## Творчы конкурс да 100-годдзя ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ

**БХД і аб'яднанне літаратараў-хрысціянаў «Дабравест» абвяшчае паэтычны конкурс да 100-годдзя Ларысы Геніюш.**

***Мэты конкурсу:***

- яднанне прагрэсіўных творчых сіл на глебе дэмакратычных, хрысціянскіх і нацыянальных каштоўнасцяў;
- падтрымка таленавітай моладзі і адораных людзей з абласцей і раёнаў.

***Умовы:***

На конкурс прымаюцца вершы грамадскага гучання з выразнай пазіцыяй аўтара, з пашанай да гісторыі і традыцый народа, з клопатам пра экалогію душы і асяроддзя.

***Тэрміны:***

Конкурс праводзіцца з красавіка па чэрвень (уключна) 2010 года. Вынікі будуць падведзеныя да 1 жніўня г.г. Рукапісы можна дасылаць як у электронным выглядзе, так і на паперы з пазначэннем біяграфічных звестак, адрасу, тэлефона і іншых кантактаў аўтара.

***Нашы адрасы:***

- 220123, г. Мінск, а/с 324
- bielhrystkultura@gmail.com

***Узнагароджанне:***

Аўтары сямі лепшых вершаваных нізак атрымаюць памятныя прызы. Асобныя творы плануецца змясціць у альманаху «Дабравест».

Старшыня журы конкурсу – Павал Севярынец

Сакратар – Галіна Каржанеўская

**Чакаем вашых творчых прац!**



## Шаноўныя браты і сёстры!

Калі Вы жадаеце атрымліваць бясплатную штомесяцовую рассылку БХД (чарговы нумар газэты «Крыніца», буклеты, узоры для збору подпісаў і г.д) – калі ласка, паведамце нам праз пошту

**220123, г. Мінск, а/с 324**,

ці e-mail: **bchd.mail@gmail.com**

або тэлефон – **8 029 5160861 (Павал)**.

**Незалежнае інфармацыйнае выданьне**
**Заснавальнік і выдавец: цэнтр«Сьветач»**
**Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.**
**Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ**
**Аб'ём: 12 палосаў А4. Падпісана ў друк 10 чэрвеня 2010 г.**
**Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.**
**Распаўсюд бясплатны.**